# СВАБОДА

11 — 17 кастрычніка 1994 г.

№38

Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец
**«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

**Наклад 50 000**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56**

**Тэл. 36-24-41**




*Ліст у рэдакцыю*

## На пяць гадоў цярпеньня ня хопіць

Сёньня ў маёй кватэры дванаццаць градусаў. Мерзнуць дзеці. Урад кажа, што ўзімку будзе яшчэ горш. Мяне заклікаюць пацярпець. Праз гэта, маўляў, у свой час прайшлі краіны Прыбалтыкі і нам давядзецца прайсьці.

Я гатовы пацярпець. Але дзе гарантыі, што ў нас жыцьцё наладзіцца гэтак жа хутка, як у той жа Эстоніі? Чамусьці мне ня верыцца. Здаецца, нас чакае доўгае «блуканьне па пакутах». На маю думку, Лукашэнка і ягоная так званая каманда — гэта людзі ня з тым розумам, каб вывесьці краіну з крызысу. Прэзыдэнт кіруе амаль тры месяцы, але не зрабіў ніякіх рэфарматарскіх крокаў.

Кажуць, вось напісалі праграму. Ну і што? Напісаць можна дзесяць праграмаў. Важна, хто будзе ажыцьцяўляць напісанае. Я ня бачу ва ўрадзе людзей здольных рашуча і талкова праводзіць рэформы, якія б далі пазытыўны вынік. Лукашэнка пасадзіў у Кабінэт міністраў альбо старую намэнклятуру, альбо сваіх магілёўскіх сябрукоў. Тым часам у Беларусі ,напэўна ж, ёсьць разумныя людзі, якія ведаюць, што і як трэба рабіць, каб эканоміка запрацавала. Але чаму гэтых людзей няма ва ўрадзе? Магчыма, яны папросту ня хочуць зьвязвацца з такім прэзыдэнтам.

Я не галасаваў за Лукашэнку і цяпер бачу, што вельмі слушна зрабіў. Толку ня будзе. А заклікі ўраду «троху пацярпець» пачынаюць нагадваць мне кебічавыя абяцанкі «пра рублёвую зону».

Шкада, але давядзецца цярпець пакуль кіруе Лукашэнка.

**Васіль ІГНАТОВІЧ**
Баранавічы

## У Рыжкавічах будуецца сьцяна

**Вакол сядзібы Лукашэнкі ў вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёну пачалося будаўніцтва цаглянай сьцяны.**

У Рыжкавічах, як вядома, па-ранейшаму жыве жонка прэзыдэнта Галіна з малодшым сынам. Сам А.Лукашэнка з моманту абраньня прэзыдэнтам, не начаваў тут ніводнага разу. Падчас апошняга візыту на радзіму (3-га кастрычніка) ён правёў ноч у шклоўскім гатэлі. Магчыма, калі пабудуюць сьцяну і дом можна будзе надзейна ахоўваць, прэзыдэнт зможа нарэшце начаваць зрэдку ў сваёй хаце.

Тым часам, у вёсцы Александрыя Шклоўскага раёну, дзе жыве ў старой хаце маці прэзыдэнта, завяршаецца будаўніцтва 10-ці катэджаў. Іх узьвялі пад дах літаральна за адзін месяц. Грошы на будаўніцтва калгас атрымае дзякуючы А.Лукашэнку зь дзяржаўнага бюджэту. Кіраўніцтва гаспадаркі, паводле нашых зьвестак, прапанавала заняць адзін з дамоў маці прэзыдэнта, аднак яна адмовілася пакідаць сваю хату.

А што да самога прэзыдэнта, то ён жыве цяпер у «казённых» дамох. Асноўная ягоная рэзыдэнцыя (2-х паварховы асабняк) знаходзіцца ў цэнтры сталіцы паблізу пляцу Перамогі. Аднак апошнія два месяцы Лукашэнка жыве ў загараднай рэзыдэнцыі ў Драздох, якая ўзмоцнена ахоўваецца.

**Іван СІДАР**

## Праблема Гадуцішкаў будзе вырашана?

**У чацьвер, 13 кастрычніка, ў Горадні адбудуцца перамовы беларускай і летувіскай дэлегацыяў па дэмаркацыі і дэлімітацыі дзяржаўнай мяжы паміж дзьвюма краінамі.**

На думку намесьніка міністра замежных справаў Беларусі Станіслава Агурцова, які ўзначальвае нашую дэлегацыю, «на перамовах у Горадні будзе канчаткова вырашанае апошняе спрэчнае пытаньне, якое датычыць станцыі Гадуцішкі».

**Генадзь ГЕРАСІМОВІЧ**

## Візыт польскага міністра

**17 кастрычніка Беларусь з афіцыйным візытам наведае міністар замежных справаў Польшчы Анджэй Аляхоўскі.**

Ён сустрэнецца з прэзыдэнтам Беларусі, прэм'ер-міністрам і міністрам замежных справаў.

**А.С.**

## Будзем гаварыць па-польску

**У 15 дзіцячых садкох г.Ліды арганізаваныя гурткі па вывучэньні польскай мовы, у якіх займаюцца звыш 250 дзяцей.**

Польская мова выкладаецца таксама ў 13 школах раёну.

## У Берасьці адчыніцца тэатар

**Зь 1 студзеня ў Берасьці будзе адчынены абласны тэатар драмы і музыкі.**

Такое рашэньне было прынятае на апошнім паседжаньні аблвыканкаму.

## Хочуць разарыць прэзыдэнта

**Генэральны дырэктар аб'яднаньня «Бабруйскдрэў» Уладзімер Таранаў зьвярнуўся ў Вярхоўны суд Беларусі з зыскам у абарону гонару і годнасьці да прэзыдэнта А.Лукашэнкі і рэдакцыі газэты «Звязда».**

Рэч у тым, што 6 ліпеня г.г., падчас наўпроставай лініі з чытачамі «Звязды», кандыдат у прэзыдэнты А.Лукашэнка назваў сп.Таранава злодзеем і запатрабаваў вярнуць дзяржаве прысвоеную валюту. І вось праз тры месяцы, абражаны дырэктар, які лічыць сябе сумленным чалавекам, згадаў гэтую публікацыю і настойвае, каб і прэзыдэнт, і газэта публічна папрасілі ў яго прабачэньня, а таксама выплацілі 10 млн. руб. за нанесеныя маральныя страты.

**СІМ**

## Праверылі гандляроў зброяй

**Кантрольная палата завяршыла праверку фірмы «Белтэхэкспарт», якая на працягу двух апошніх гадоў з дазволу ўраду гандлявала зброяй.**

У выніку праверкі выявіліся шматлікія фінансавыя злоўжываньні, а таксама факты продажу зброі ў «гарачыя кропкі».

З гэтай прычыны Кантрольная палата зьвярнулася да прэзыдэнта Лукашэнкі з прапановаю «прыняць меры па выяўленьні і прыцягненьні да адказнасьці службовых асобаў, каторыя спрыялі заключэньню здзелкаў, якія нанесьлі эканамічныя і палітычныя страты Беларусі». Кантрольная палата лічыць таксама неабходным увесьці дзяржаўную манаполію на продаж узбраеньняў, стварыўшы дзеля гэтага спэцыялізаваную дзяржаўную арганізацыю. Папярэдні ўрад даў права гандляваць зброяй і вайсковай тэхнікай тром камэрцыйным фірмам.

**Іван ГАРНАВЕЦ**

## Божы дом у Лунінцы

**У Лунінцы адбылося асьвячэньне малітоўнага дома эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў.**

Куплены на ахвяраваньні прыватны жылы будынак літаральна за некалькі месяцаў быў рэканструяваны і прыстасаваны для набажэнстваў.

## TV
*6 каналаў*



## Французы пасябравалі з нашымі танкістамі

**Французскія вайскоўцы з пабрацімскага гораду Ліможа наведалі ў аўторак 6-ую мэханізаваную брыгаду беларускага войска, якая размяшчаецца ў Горадні.**

Раней, у верасьні, да 6-ай брыгады прыяжджалі палякі. Адбыліся сумесныя стрэльбы танкістаў на Госкім палігоне. А перад гэтым нашыя вайскоўцы наведалі пад Варшаваю сваіх польскіх калегаў.

Цікава, што расейскія вайскоўцы не імкнуцца да ўмацаваньня сувязяў зь беларусамі і нават не існуе, наколькі вядома, пабрацімскіх кантактаў паміж гарадамі.

**С.МАКС**

## Хлеб спалілі і закапалі

**На хлебазаводзе ў г.п.Халопенічы Крупскага раёну мясцовая міліцыя выявіла факты спальваньня хлеба. Узбуджана крымінальная справа.**

Сьледчыя знайшлі на тэрыторыі завода яму, дзе было спалена і закапана прыкладна дзьве тысячы боханаў хлебу. Апытаныя па гэтай справе сьведкі тлумачаць, што гэта была няякасна выпечаная партыя хлебу, якая вярнулася з крамаў. У такіх выпадках, як вядома, хлеб ідзе на перапрацоўку, аднак тут вырашылі праблему прасьцей. А каб пакрыць страты, адміністрацыя пачала ажыцьцяўляць розныя махінацыі. Выяўлюцца таксама аферы з мукою, якая прадавалася з заводу «пэўнаму колу асобаў». Тым часам дырэктар хлебазаводу Зоя Сімака зьяўляецца пакуль асобаю недатыкальнаю, бо яна мае мандат дэпутата пасялковага Савету.

**Іван СІДАР**

## Закон на баку галоўнакамандуючага

**Былы міністар абароны Беларусі П.Казлоўскі, якога прэзыдэнт Лукашэнка панізіў у званьні, і трое намесьнікаў апальнага генэрала (Зуеў, Дзямідзік і Сікора), звольненыя са сваіх пасадаў, зьвярнуліся ў камісію Вярхоўнага Савету па пытаньнях абароны і нацыянальнай бясьпекі з просьбаю аспрэчыць прэзыдэнцкія ўказы ў Канстытуцыйным судзе.**

Аднак парляманцкая камісія вырашыла не зьвяртацца ў Канстытуцыйны суд, бо юрыдычны аддзел Вярхоўнага Савету прыйшоў да высновы, што прэзыдэнт, які зьяўляецца галоўнакамандуючым Узброеных сілаў Беларусі, дзейнічаў у рамках сваёй кампэтэнцыі і не парушыў ні Канстытуцыі, ні іншых законаў.

СІМ

## Булахаў і Лебядзько працуюць у прэзыдэнта на грамадзкіх пачатках

**Народныя дэпутаты Дзьмітрый Булахаў і Анатоль Лебядзько атрымалі, як вядома, статус прадстаўнікоў прэзыдэнта ў парляманце.**

Камэнтуючы гэты факт, Анатоль Лебядзько ў прыватнасьці адзначыў, што і ён, і Булахаў засталіся на былой сталай працы ў парляманце, а абавязкі прэзыдэнцкіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце выконваюць на грамадзкіх пачатках у вольны ад асноўнай працы час: па вечарох і выходных. Ніякіх пісьмовых прэзыдэнцкіх распараджэньняў аб новым назначэньні сп.Булахава і Лебядзько няма. Сп.Лебядзько кажа, што паміж ім і прэзыдэнтам існуе вусная дамоўленасьць наконт гэтага. Ён паведаміў таксама, што de facto зьяўляецца яшчэ і дарадцам прэзыдэнта у міжнародных пытаньнях, але, зноў жа, гэтыя функцыі выконвае ў вольны ад службы час. Нагадаем, што А.Лебядзько ўзначальвае ў Вярхоўным Савеце падкамісію па справах моладзі, а Дз.Булахаў — камісію па заканадаўству.

СІМ

## Новыя пашпарты будуць ня хутка

**Як паведаміў начальнік пашпартнага аддзелу Міністэрства ўнутраных справаў Анатоль Барташэвіч, у кожным раёне Менска штотыдня выдаецца 5—10 пашпартоў новага ўзору.**

«Калі гэты працэс ахопіць усю Беларусь сказаць вельмі цяжка — адзначыў сп.Барташэвіч — бо існуе яшчэ шмат праблемаў». У прыватнасьці, няма банку пашпартных дадзеных усяго насельніцтва, не зацьверджаныя правілы перакладу прозьвішчаў на ангельскую мову, а сам узор пашпарту пакуль яшчэ не прайшоў міжнародную экспэртызу на адпаведнасьць сусьветным стандартам. Нагадаем, што першы пашпарт новага ўзору быў уручаны прэзыдэнту Беларусі.

СІМ

## За здароўе сьляпых!

**Беларускае таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) адзначыла свой 70-гадовы юбілей.**

З гэтай нагоды ў менскім офісе БелТІЗа ў суботу, 8 кастрычніка, начальства на чале са старшынём таварыства, дэпутатам ВС А.Нятылькіным наладзіла шыкоўны банкет (прысутнічала больш за сотню гасьцей). Калі меркаваць па багацьці напояў і далікатэсных закусак на сталох, то справы ў таварыстве сьляпых ідуць няблага.

У сапраўднасьці ж БелТІЗ, якое аб'ядноўвае каля 20 тысяч інвалідаў па зроку, ледзь дыхае. Амаль усе 17 прадпрыемстваў таварыства знаходзяцца на мяжы банкруцтва. Заработная плата тут удвая меншая, чым у сярэднім па краіне. А работнікі сацыяльнай сфэры таварыства ўжо другі месяц зусім не атрымліваюць заробак. На банкет, аднак, грошы знайшліся.

Іван СІДАР

## Беспрацоўнага генэрала ўладкавалі

**СВАБОДА паведамляла, што нядаўні начальнік Гарадзенскай абласной міліцыі генэрал Фёдар Гудзей быў пераведзены з гэтай пасады былым міністрам У.Данько ў рэзэрв.**

Тады сп.Гудзею абяцалі, што прызначаць яго урадавым каардынатарам абласных праваахоўных органаў. Аднак пасада гэтая так і не была ўведзеная, і генэрал, па-сутнасьці, застаўся бяз працы. Абласныя ўлады пашкадавалі яго і ўладкавалі памочнікам старшыні аблвыканкаму па каардынацыі дзейнасьці тых самых праваахоўных органаў. За ім замацаваная службовая машына зь міліцэйскім шафёрам.

Нядаўна генэрал правёў у сваёй новай ролі першую нараду. Але калі ў былыя часы на брыфінгі ва ўправу ўнутраных справаў запрашаліся ўсе журналісты, дык цяпер іхнае кола страшэнна звузілася. Высновы дзьве: або сп.Гудзею няма яшчэ чаго паведаміць прэсе, або ён наагул перастаў чамусьці любіць журналістаў, як было раней.

В.В.

## Кіраўніцтва БНФ актыўна езьдзіць па краіне

**Прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту і ценявога кабінэту Апазыцыі працягваюць паездкі па Беларусі.**

У мінулыя выходныя дэпутаты ВС С.Навумчык, С.Папкоў, член-карэспандэнт Акадэміі навук І.Нікітчанка і сакратар управы БНФ В.Івашкевіч правялі сустрэчы з выбаршчыкамі ў Маладэчанскім раёне. Яны пабывалі ў мястэчках Радашковічы, Краснае, вёсках Турэц, Баяры, Раёўка. Паездка гэтым разам адбывалася без З.Пазьняка (ён выяжджаў у Вільню).

У бліжэйшыя выходныя прадстаўнікі Апазыцыі разам з Пазьняком зьбіраюцца наведаць Вялейскі раён, а пазьней — Мядзельскі.

Як заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ сакратар управы БНФ Віктар Івашкевіч, у выніку гэтых паездкаў кола сяброў і прыхільнікаў Народнага Фронту значна пашыраецца.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

## Кабінэт працуе пакуль у цяні

**На апошнім паседжаньні апазыцыйнага ценявога кабінэту былі абмеркаваныя праблемы рэфармаваньня сельскай гаспадаркі.**

Вырашана прысьвяціць асобнае паседжаньне праблеме прыватнай уласнасьці на зямлю.

Алесь КНЯЗЮК
БелаПАН

## Фракцыя Грамады супраць „прэзыдэнцкай вэртыкалі"

**Дэпутаты парляманцкай фракцыі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады лічаць, што прэзыдэнт Лукашэнка імкнецца ўратаваць «прагнілую сыстэму ўлады».**

Пра гэта гаворыцца ў заяве фракцыі БСДГ, дзе дэпутаты выказалі сваё стаўленьне да зьменаў у законе «Аб самакіраваньні», якія далі прэзыдэнту права прызначаць кіраўнікоў мясцовай улады. У заяве адзначаецца, што «прэзыдэнт, насуперак сваім перадвыбарчым абяцаньням, вырашыў абаперціся не на народ, так і не адважыўшыся даць выбаршчыкам права кантролю над уладай, а на чыноўніцтва, якое скампрамэтавала сябе. Гэта прывядзе да яшчэ большага бясправ'я і прыніжэньня простых людзей. «Вэртыкаль» улады, што фармуецца такім чынам, будзе перашкаджаць рэалізацыі праграмы неадкладных мераў па выхаду эканомікі з крызысу і прывядзе толькі да далейшага зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню беларускага народу», падкрэсьліваецца ў заяве.

Фракцыя БСДГ таксама пратэстуе супраць неаднаразовых спробаў прэзыдэнта і ягонага бліжэйшага акружэньня ўнесьці на разгляд Вярхоўнага Савету законапраекты, асобныя палажэньні, якіх супярэчаць Канстуцыі і садзейнічаюць дэстабілізацыі грамадзка-палітычнай сытуацыі ў грамадзтве.

М.Г.

## Намесьніку міністра замежных справаў будзе прысвоена новае званьне



**У ваенкамаце рыхтуюцца дакументы на прысваеньне чарговага вайсковага званьня намесьніку міністра замежных справаў Беларусі Валерыю Цапкалу (на здымку).**

**Праўда, будзе званьне вельмі сьціплым: старэйшы лейтэнант.**

СІМ

## «Жалезны Фэлікс» церпіць страты

**З будынку чыгуначнага вакзалу ў Лідзе зьнялі дзьве мэмарыяльныя дошкі з рэвалюцыйнымі надпісамі. Здавалася, што шыльды абновяць і павесяць назад. Аднак дзіркі ад цьвікоў затынкавалі, а будынак пафарбавалі.**

Першая дошка паведамляла па-расейску, што «тут 27 ліпеня 1920 г. знаходзіўся выбітны дзеяч камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы, цьвёрды вучань і паплечнік В.І.Леніна, старшыня ВЧК Дзяржынскі Фэлікс Эдмундавіч». З энцыкляпэдыі можна даведацца, што Ф.Дзяржынскі спыняўся ў Лідзе праездам на Заходні фронт, войскі якога наступалі на Варшаву. Галоўны чэкіст гутарыў на станцыі з чыгуначнікамі, рабочымі і службоўцамі «пра пытаньні зьнешняй і ўнутнай палітыкі савецкага ўраду».

З тэксту другой дошкі можна было даведацца пра першы камуністычны суботнік, які адбыўся на лідзкай станцыі 15 верасьня 1920 г. Вядома таксама, што ў ім удзельнічалі чыгуначнікі, рабочыя ды чырвонаармейцы. Сярод іх было 213 камуністаў і 707 беспартыйных. Яны расчысьцілі ад завалаў больш за 50 тыс. кв. мэтраў чыгуначнага палатна. Як неўзабаве высьветлілася, стараліся яны дарэмна, бо праз два тыдні (30 верасьня) польскія легіянэры выгналі чырвонаармейцаў зь Ліды.

Абедзьве шыльды былі ўсталяваныя ў 1967 г

С.А.

# Прапаршчыкаў будуць вучыць забіваць цьвікі мас-спэктрамэтрам

**8 кастрычніка ў пасёлку Калодзішчы пад Менскам адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Цэнтру перападрыхтоўкі і працаўладкаваньня вайскоўцаў запасу, які створаны пераважна на грошы ўраду ФРГ.**

Аднак, вельмі хутка можа высьветліцца, што значная сума дойчэмарак пайшла зусім не на тыя мэты, якія дэкляраваліся. Дасьведчаныя людзі сьцьвярджаюць, што шмат якое абсталяваньне, закупленае для цэнтру, тут абсалютна непатрэбнае. Гэта надта дарагая і ўнікальная апаратура, якая нават у заходніх краінах выкарыстоўваецца выключна для навуковых мэтаў, а не для навучаньня. Навошта ж тады яе купілі?

Справа ў тым, што сьпіс абсталяваньня ад імя Міністэрства абароны складала адна менская фірма, якая вырашыла задаволіць і свае інтарэсы, замовіўшы тое, што патрэбна ёй для працы. Цяпер, карыстаючыся гэтай апаратурай, фірма пасьпяхова вырашае свае праблемы.

Карацей, добрую, у прынцыпе, ідэю рэалізавалі чыста па-савецку: грошы патрацілі вялікія, але дзеля чаго — невядома. Зрэшты, ня будзем лічыць дурнямі чыноўнікаў Міністэрства абароны, яны, пэўна ж, ведалі, што тут да чаго.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

**На здымку: нямецкі пасол Альбрэхт Готфрыд і намесьнік міністра абароны генэрал Алег Яцкевіч падчас афіцыйнай цырымоніі адкрыцьця цэнтру**



# «Белая Русь» у небясьпецы

**Значнае падвышэньне цэнаў на айчынную гарэлку імгненна адбілася на аб'ёмах вытворчасьці гэтага стратэгічнага для нашага бюджэту прадукту.**

Працяглы час стаяў Віцебскі гарэлачны завод. Полацкі завод днямі зусім спыніў выраб белай, а выпускае толькі віно ды каляровыя настойкі, якія на 35% таньней за звычайную гарэлку. «Распуціны» і «Сьмірновы» добра прыціснулі да сьцяны «Рускую», не кажучы ўжо пра «Белую Русь». Вытворцы гарэлкі спадзяюцца, што ўведзеныя нядаўна падаткі на ўвоз моцных замежных напояў палегчыць рэалізацыю айчыннай 40-градуснай.

Васіль КРОКВА

# Горадня мае шанц трапіць у сьпіс UNESCO

**У UNESCO існуе сьпіс сотні гарадоў, залічаных да сусьветнай культурнай спадчыны. Магчыма, што да іх таксама далучыцца Горадня.**

У Варшаве нядаўна адбыўся міжнародны сымпозіюм, прысьвечаны рэстаўрацыі гарадоў. На яго былі запрошаныя прадстаўнікі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Гаворка вялася ня толькі пра чыста тэхнічны бок справы. Вельмі важна насычаць рэстаўраваныя і старыя цэнтры жыцьцём, не ператвараць іх толькі ў асяродзьдзі банкаў, крамаў і рэстаранаў.

Нашым суседзям палякам яшчэ раней пашанцавала, і ў сьпіс UNESCO былі ўнесены тры іхныя гарады — Варшава, Кракаў і Замосьце. Цяпер яны спадзяюцца далучыць да іх яшчэ некалькі старых гарадоў. Быць уключаным у гэты сьпіс вельмі прэстыжна, а для турызму гэта найлепшая рэкляма. Беларусы пакуль прапанавалі Горадню і шэраг сваіх абарончых храмаў. Нашыя гарады, канешне ж, бяднейшыя на архітэктуру за тыя ж польскія. Але пры абмеркаваньні заўсёды ўлічваецца значэньне гораду для канкрэтнага народу.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

# Бомба — савецкая, пратэзы — нямецкія

**Пра тое, як увесну ў Кобрыні група падлеткаў узарвалася на авіяцыйнай бомбе, знойдзенай паблізу аэрадрому, паведамлялі многія газэты. У выніку 8 дзяцей назаўсёды засталіся калекамі. У гэтай гісторыі, аднак, ёсьць працяг.**

Лёсам пакалечаных дзяцей, у адрозьненьне ад Міністэрства абароны, зацікавіўся майстар-артапэд зь нямецкага гораду Ульцэну спадар Ехім Кёбэрых, які некалькі разоў наведваў Кобрынь з дабрачыннымі місіямі. Спэцыяліст вышэйшай кваліфікацыі, ён па просьбе мясцовых уладаў зрабіў некалькі выдатных пратэзаў рук і ног для траіх дзяцей, прычым практычна бясплатна (плата зусім сымбалічная ў параўнаньні з тою, што бярэцца за падобную работу ў Нямеччыне).

Сам сп.Кёбэрых, які мае ў сябе на радзіме некалькі артапэдычных майстэрняў, ужо на працягу году вядзе перамовы, каб адчыніць сваю філію ў Кобрыні. Улады быццам ня супраць, аднак бюракратычны воз усё яшчэ прабуксоўвае. Бо пратэзы — пратэзамі, а што ж будуць мець клеркі ад нейкай там майстэрні?..

Мірон ГАМОН

# Мэцью Каханэ паглядзеў на Аўгустоўскі канал

**Зь 5 па 7 кастрычніка ў Горадні знаходзіўся прадстаўнік ААН у Беларусі сп.Мэцью Каханэ.**

Ён наведаў у Гарадзенскім раёне Аўгустоўскі канал, які злучае беларускую тэрыторыю з польскай. Гаворка ішла пра дапамогу міжнародных арганізацыяў у рэканструкцыі беларускай часткі Аўгустоўскага каналу. Беларускае міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя яшчэ раней вызначыла, што рэканструяваць канал будуць беларускія і польскія будаўнічыя арганізацыі, а выдаткі падзеляць пароўну Гарадзенскі райвыканкам і заказчык.

На беларускай тэрыторыі Аўгустоўскі канал мае працягласьць у 21 км., зь якіх 3 км. 400 мэтраў у памежнай зоне. Раней гэтую тэрыторыю было забаронена наведваць. Палякі ўвесь час падтрымліваюць сваю частку ў парадку і скарыстоўваюць у турыстычных мэтах. Аўгустоўскі канал зьяўляецца помнікам інжынэрнай думкі XIX ст.

С.А.

# Зэльва стане горадам дзякуючы электрастанцыі

**Начальнік Гарадзенскай абласной галоўнай управы архітэктуры і горадабудаўніцтва Анатоль Пархута сустрэўся зь мясцовымі журналістамі. Ён паведаміў, што каб ня скончылася перабудова, дык на Гарадзеншчыне да 1998 г. усе жыхары інтэрнатаў атрымалі б кватэры. Праўда ён дадаў, што ў апусьцелыя інтэрнаты магла б кінуцца новая хваля вяскоўцаў.**

Сёньня тэмпы будаўніцтва жыльля спалі да ўзроўню пачатку 70-х гадоў. Паказчыкі больш-менш ратуюць пакуль жылыя гарадкі для вайскоўцаў, якія будуюцца ў Лідзе, Росі і Слоніме. Сп.Пархута нагадаў таксама, што некалі ў абласным Савеце спрачаліся, навошта нам тут лішнія войскі і грамадзяне замежнай дзяржавы. Хоць, як вядома, ад мясцовых уладаў нічога тады не залежала. Але атрымалася ўсё нармальна: частка расейцаў ад'ехала на радзіму, а замест іх вярнуліся свае беларусы. Расейцы і немцы не хацелі тады дапускаць да будоўляў нашых будаўнікоў. Аднак у Рось нашыя ўсё ж трапілі і, за словамі сп.Пархуты, атрымалі там добрую практыку. Разам з тым у трох гарадках мы атрымалі багата беспрацоўных, якіх вельмі цяжка ўладкаваць.

Адзінае месца, дзе спатрэбіцца шмат працоўнай сілы, гэта Зэльва. Гарадзенская вобласьць сярод усіх астатніх, мае самы вялікі дэфіцыт электрычнасьці. Як магчымае месца пабудовы электрастанцыі разглядаліся Ліда, Слонім і Зэльва. Спыніліся на апошняй. З улікам гэтай акалічнасьці ўправай сп.Пархуты распрацаваны генэральны плян разьвіцьця Зэльвы. Побач старога вадасховішча створаць новае зь іншым тэмпэратурным рэжымам. Да будоўлі гідраэлектрастанцыі правядуць чыгунку. Паводле прагнозаў, насельніцтва Зэльвы да 2010 года павялічыцца зь 9 да 30 тысяч чалавек.

Справы ў будаўніцтве кепскія. Як адзіны плюс сп.Пархута адзначыў тое, што сёньня нарэшце загаварылі пра ўласна архітэктуру. Раней патрабаваліся толькі квадратныя мэтры і каб не працякалі швы ў панэльных дамох. Цяпер хоць заказчыкі і няшмат, але іх абавязкова цікавіць і эстэтычны выгляд будынкаў.

С.А.

# Вільню цягнік абмінае

**У кастрычніку паміж Горадняй і Віцебскам пачаў езьдзіць пасажырскі цягнік.**

Раней ён праходзіў цераз Вільню. Потым маршрут скарацілі і цягнік курсаваў паміж Віцебскам і Вільняй. Цяпер маршрут стаў даўжэйшы, але праходзіць цалкам па беларускай тэрыторыі.

А.Т.

# Уцекачоў злавілі

**Нядаўна слонімская міліцыя затрымала двух падазроных хлопцаў у паўвайсковым адзеньні.**

Высьветлілася, што гэта зьбеглыя салдаты з 11-й мэханізаванай брыгады, якая знаходзіцца ў Слоніме. Байцы па ўласным жаданьні зьмянілі казарму на лясны будан, дзе адлачывалі ад службы 10 дзён. Жылі яны тым, што «чысьцілі» лецішчы, а скрадзенае прадавалі жыхарам навакольных вёсак. Вайсковае начальства досыць абыякава ўспрыняло вестку пра затрыманьне ўцекачоў. У работнікаў міліцыі склалася ўражаньне, што «рабінзонаў» зусім не шукалі.

Валодзя ЯН-

# Знайшлі медную жылу

**Кобрынь. «Нарыхтоўшчыкі» каштоўных каляровых мэталаў вынайшлі, здаецца, яшчэ адну медна-бронзавую «жылу» — на даху шматпавярховых дамоў.**

Тут яны скручваюць часткі тэлеантэнаў, якія маюць дэталі з каляровымі мэталямі. Падпільнаваць такіх здабытчыкаў цяжка: ня будзеш сядзець дзень і ноч на даху, вартуючы сваю антэну.

К.В.

# Злодзей — ня дурань

**З крамы вёскі Жыровіцы Слонімскага раёну бясьсьледна зьніклі 400 бутэлек гарэлкі.**

Што дзіўна, злодзеі, пасьля таго як «абчысьцілі» краму, павесілі на яе дзьверы свой замок. Крама была зачыненая на два выходныя дні, і таму ніхто не падымаў трывогу.

В.В.

# Адзінаццаць месяцаў за празьмерную цікаўнасьць

**Сумна скончылася для аднаго з жыхароў Наваполацку цікаўнасьць да леташніх падзеяў вакол маскоўскага Белага дому.**

Гэты цікаўнік патрапіў у кадры відэаздымкі сярод узброеных баявікоў. Яго арыштавалі на кватэры маці, якая жыве ў расейскай сталіцы. Адзінаццаць месяцаў адседзеў небарака ў «Матроскай цішыні». Толькі нядаўна маскоўскі суд прызнаў яго невінаватым і выпусьціў на волю.

Тамаш ГУРБА

# Вярхоўны Савет пакаяўся і здаўся новаму „бацьку“

**У прэзыдэнцкай адміністрацыі зноў гарачыя дні: тут пачалі дзяліць партфэлі старшыняў абласных і раённых выканкамаў. Здаецца, для прэзыдэнта і ягонай кампаніі гэта вельмі прыемны занятак.**

Лукашэнка досыць лёгка атрымаў ад Вярхоўнага Савету ўсё, што хацеў. Цяпер ён будзе прызначаць кіраўнікоў аблвыканкамаў, а тыя, у сваю чаргу — старшыняў раённых і гарадзкіх органаў улады. Дэпутаты гэтых Саветаў будуць выконваць чыста дэкаратыўныя функцыі. А сельскія і пасялковыя Саветы наагул ліквідуюцца, уся ўлада тут перадаецца ў рукі «мясцовай адміністрацыі», якую будзе прызначаць раённае кіраўніцтва.

Такім чынам, мы практычна разьвіталіся з савецкай уладай, якая праіснавала ў Беларусі 75 гадоў. Аднак на зьмену саветам прыйшоў парадак, які нельга назваць дэмакратычным. Народ пакуль так і не атрымаў права непасрэдна абіраць кіраўнікоў мясцовай улады. Лукашэнка вырашыў забраць гэтае права сабе. Як мяркуюць некаторыя аналітыкі, гэта можа прывесьці да ўсталяваньня ў нашай краіне таталітарнага рэжыму, асабліва ў выпадку правалу эканамічных рэформаў. Можа быць і такое. Але, як мне здаецца, «прэзыдэнцкая вэртыкаль» пражыве нядоўга. Наступны парлямант хутчэй за ўсё прыме зусім новую мадэль мясцовага самакіраваньня, заснаваную на дэмакратычных прынцыпах.

Што ж да цяперашняга Вярхоўнага Савету, то ён зараз служыць новаму «бацьку». Тыя самыя дэпутаты, якія некалі дружна падтрымлівалі В.Кебіча, вылучалі яго кандыдатам у прэзыдэнты (узгадайце 220 дэпутацкіх подпісаў за Францавіча), цяпер яны гэтак жа аддана служаць А.Лукашэнку.

Уявіце сабе: 221 дэпутат прагаласавалі за «прэзыдэнцкую вэртыкаль». Лукашэнка не памыляўся, калі адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў заяўляў, што Вярхоўны Савет сам прыпаўзе да яго. Прэзыдэнт гадаваўся ў гэтай самай намэнклятурнай сям'і і добра ведае ейныя норавы: прададуць што заўгодна і каго заўгодна, абы самім ўратавацца і атрымаць цёплае месца. Заўважце: перакінулася ўся група «Беларусь», за выключэньнем ейных лідараў Г.Казлова, М.Скарыніна, В.Паўлава і яшчэ 4—5 дэпутатаў (як генэрал Бачароў, напрыклад), якія надта «засьвяціліся» з Кебічам, і таму ад Лукашэнкі нічога добрага ім чакаць не даводзіцца. А астатнія: старшыні выканкамаў, дырэктары заводаў, аграрнікі — ўсе прыйшлі з пакаяньнем. І прэзыдэнт іх зразумеў, бо сам некалі гуляў у камандзе Вячаслава Францавіча. Галасаваньне, дарэчы, было паіменным.

У гэтай сытуацыі толькі Апазыцыя выглядала прыстойна, цьвёрда трымаючыся сваіх прынцыпаў. (У прыватнасьці, апазыцыянэры настойвалі, каб кіраўнікоў мясцовай выканаўчай улады выбірала насельніцтва.) Апазыцыя выступала сапраўды як палітычная сіла — адзіная ў гэтым парляманце, якая мае канкрэтную палітычную плятформу і непахісна адстойвае яе.

А за што змагалася чатыры гады так званая дэпутацкая большасьць? Толькі за пэрсанальнае месца каля дзяржаўнага карыта! На гэтую публіку абапіраўся Кебіч. Цяпер вось зь ёю хутка паразумеўся Лукашэнка. Можна не сумнявацца, прэзыдэнт дасьць ім пасады і яны будуць служыць яму «верай і праўдай». Такія людзі прэзыдэнту патрэбныя. На парляманцкіх выбарах менавіта яны стануць ягоным галоўным апірышчам. «Прэзыдэнцкая вэртыкаль» будзе рабіць усё магчымае і немагчымае (як у часы кампартыі), каб правесьці ў дэпутаты падкантрольных прэзыдэнту людзей.

Лукашэнка, як вядома, выступае супраць таго, каб палова дэпутатаў выбіралася паводле партыйных сьпісаў. Трэба чакаць, што Вярхоўны Савет прагаласуе менавіта так, як гэтага хоча прэзыдэнт. У выніку мы зноў можам атрымаць нікчэмны парлямант, дэпутаты якога будуць віхляцца зьлева ўправа, у залежнасьці ад асабістых кар'ерна-бытавых інтарэсаў.

Дарэчы, у гэтым сэнсе сам Лукашэнка вельмі яскравы прыклад. Колькі б ён ні гаварыў, што «я за это всегда выступал», што «я и раньше это предлагал» і г.д., усё гэта дэмагогія. Чатыры гады Лукашэнка паводзіў сябе ў Вярхоўным Савеце як самы звычайны каньюнктуршчык. І як толькі адчуў, што ёсьць магчымасьць згуляць уласную партыю, ён вырашыў скарыстаць гэты шанц і пайшоў, як танк. Той факт, што Лукашэнка вымушаны цяпер адыходзіць ад сваіх папулісцкіх перадвыбарчых абяцаньняў, таксама досыць яскрава характарызуе ягоную пэрсону. Куды прэзыдэнт Лукашэнка паверне заўтра — пра гэта ён сам, здаецца, яшчэ ня ведае.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



**Аляксандар Фядута, якога вы бачыце на гэтым здымку, лічыцца адным з найбліжэйшых паплечнікаў прэзыдэнта Лукашэнкі.**

**Ён спрабаваў зрабіць камсамольска-партыйную кар'еру, аднак не пасьпеў, бо «руководящая и направляющая» страціла ўладу. Але, як бачым, падняцца сп.Фядуту ўсё ж такі ўдалося. Цяпер ён у Лукашэнкі галоўны прапагандыст і начальнік над усёю прэсай (дзяржаўнаю). Пэўны час Фядута таксама троху займаўся журналістыкай: восем месяцаў працаваў карэспандэнтам у газэце «24 часа» — органе Гарадзенскага гаркаму КПБ. Але і тут сп.Фядуту не пашанцавала, бо пасьля жнівеньскага путчу газэту прыкрылі. Дарэчы, вельмі адыёзная была газэтка.**

**Антон КАПЛІЦА**

## Сёньня

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# Антыпод

У прэзыдэнта Лукашэнкі няма яснага палітычнага антыподу. Усе магчымыя антыподы — няясныя. Кажуць, «прэзыдэнта першыя сто дзён не крытыкаваць», «падтрымаць учасьце барацьбы з карупцыяй», «падтрымаць пры ўмове, калі ён...» Адкуль гэтыя ілюзіі, гэтая гульня ў «лібэральныя каштоўнасьці»? Адкуль наагул гэты Лукашэнка ўзяўся? Ніхто не чакаў... А ўзяўся ён з кучы. І цяпер усе зноў зьбіваюцца ў адну палітычную кучу. А куча ня ведае поступу.

Каб нешта нарадзілася — патрэбныя двое. Палюсы. Плюс і мінус. Каб нешта адбывалася, патрэбна белае і чорнае, нашы і немцы. Завальваюць справу белыя, народ гукае чорных, і наадварот.

У Лукашэнкі ёсьць два шляхі — выжыць да канца тэрміну ці быць скінутым. Але ў абодвух выпадках народ на знакавым узроўні пойдзе шукаць лукашэнкавага антыпода. Маўляў, крытыкаваў, дык ідзі сам пакіруй.

І вось што зьдзіўляе. Пры відавочнай неадпаведнасьці прэзыдэнта пасадзе, ніхто з канкурэнтаў ня хоча ўзяць на сябе ролю ягонага антыпода. Няма крытыка пасьлядоўнага і радыкальнага. У палітычным жыцьці краіны не ўзьнікае ток паміж «+» і «—». І неадпаведнасьць Лукашэнкі затуманьваецца ілюзорнымі фразамі, накшталт «падтрымаць учасьце незалежнасьці...»

У такой сытуацыі прэзыдэнт можа стаць ахвяраю не палітычнай барацьбы, а народнага гневу. Разгневаны народ выйдзе на пляц і выбера з палітычнай кучы... новага Лукашэнку.

# Былы афіцэр КГБ піша пра маскоўскі плян „беларускага калідору“

**Нядаўна ў газэце «Знамя юности» былы афіцэр КГБ Уладзімер Ксёнз апублікаваў досыць цікавы артыкул, які, аднак, многія не заўважылі. Прапануем некаторыя фрагмэнты гэтай публікацыі нашым чытачам.**

Аўтар, у прыватнасьці, піша: «Увосень 1992 г. нацыянальны гонар расейцаў быў закрануты папрокамі з боку суверэнных рэспублік былога СССР у тым, што Расея як абірала, так і абірае гэтыя рэспублікі, вывозячы зь іх прадукты, тавары, прамысловыя вырабы і г.д. Неабходна было паставіць кропку ў гэтым працэсе і паказаць блізкім суседзям, што жартаваць з Расеяй нельга. У лістападзе 92-га каманда расейскага прэзыдэнта ўзялася за распрацоўку новай стратэгічнай палітыкі і разьвіцьця новай Расеі ўжо не на словах, а на справе.

Тады ўпершыню ў прэзыдэнцкай камандзе нарадзіўся тэрмін «беларускі калідор». Ідэя ягонага стварэньня належала Шохіну і Шумейку, а пазьней праект падтрымаў і Чарнамырдзін. Сутнасьць праекту ў тым, каб Расея магла атрымліваць устойлівы сухапутны доступ да краінаў Усходняй і Заходняй Эўропы. Зьмены, якія адбываліся ў Прыбалтыцы, Украіне, Малдове, пакідалі Расеі адзіны шанц — Беларусь. Наша Рэспубліка, праз якую праходзілі і праходзяць асноўныя чыгункавыя ды аўтамабільныя магістралі, газанафтаправоды, стала адным з важнейшых зьвёнаў новай стратэгічнай палітыкі Расеі на Захадзе, як і Казахстан ва ўзаемаадносінах Расеі з краінамі Сярэдняй Азіі.

У сьнежні 1992 г. з удзелам прэзыдэнта Ельцына на адным з падмаскоўных лецішчаў прайшла закрытая нарада. Шохін прапанаваў як спосаб палягчэньня руху расейскага лякаматыва на шляху рынкавых рэформаў адчапляць вагоны, якія замаруджвалі гэты рух. Гэтымі вагонамі, як вы здагадаецеся, былі ранейшыя рэспублікі Саюзу. Сутнасьць прапановы заключалася ў двух кроках, якія прыводзілі б да адчапленьня адных і пакіданьня іншых вагонаў. Першы крок — вывад з рублёвай зоны (зоны Расеі) усіх былых рэспублік СССР праз выняцьце з абароту купюраў 1961—1993 гг., увод каэфіцыенту расейскага рубля ў адносінах да грашовых наміналаў рэспублік. Тым самым адразу, на пачатковым этапе, было ўзята за мэту паставіць грашовыя сыстэмы рэспублік у залежнасьць ад Нацыянальнага банку і ўраду Расеі.

Другім крокам прапанавалася ўплываць на сытуацыю ў блізкім замежжы ў інтарэсах эканомікі Расеі з дапамогаю спыненьня і ўзнаўленьня падачы газу і нафты.

Прапановы былі прынятыя і хутка пачалі ажыцьцяўляцца. Гэта дало магчымасьць падняць доўг Беларусі Расеі з 0 да 4 млрд. даляраў на сёньняшні дзень.

Плян «Беларускі калідор» таксама меў на мэце вывад з палітычнай арэны Беларусі палітыкаў, якія запатрабуюць ад Расеі плату за выкарыстаньне іхных тэрыторыяў і магістраляў, як гэта зрабіла Польшча. Такімі палітыкамі аказаліся Шушкевіч і Пазьняк. Першага абвінавацілі ў злоўжываньні службовым становішчам — будаваў гараж для асабістай машыны, рамантаваў кватэру і ставіў помнік на магілу маці. Другога прадставілі як злоснага ворага расейцаў».

# Праграма прэзыдэнта ня можа быць выканана

Эканаміст Андрэй Тур з Беларускага эканамічнага унівэрсытэту камэнтуе праграму выхаду з крызысу

### Мэта

У самых агульных рысах Лукашэнкава «Праграма неадкладных мер...» мала чым адрозьніваецца ад аналягічных праграмаў краінаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы. Тут, як быццам, ёсьць увесь набор патрэбных захадаў. Але маюць месца два вельмі істотныя недахопы. Першае: у гэтых праграмах была выразна акрэслена стратэгічная мэта — для чаго? Сама праграма выступала толькі як падразьдзел, адзін з момантаў агульнай мэты. Напрыклад, падавіць інфляцыю і захаваць стабільнасьць можна рознымі спосабамі. Можа здарыцца так, што пасьля дасягненьня нейкіх асобных мэтаў спатрэбіцца зноў заганяць эканоміку ў стан крызысу. Таму што ў нашай праграме няма асноўнага — стратэгічнай мэты.

Другое: праграма Лукашэнкі ня можа быць выканана. З адной прычыны не: усе падобныя праграмы нарэшце вырашалі праблему выбару — ці сацыяльная справядлівасьць, ці эканамічная эфэктыўнасьць. Адно з двух, а трэцяга — ня дадзена. Немагчыма ставіць на перша плян пытаньні сацыяльнай роўнасьці, калі эканоміка знаходзіцца ў глыбокім трансе. Немагчыма праводзіць структурную перабудову, змагацца зь інфляцыяй і пры гэтым спрабаваць не пагаршаць жыцьцёвы ўзровень насельніцтва. Эканоміка з гэтым не справіцца.

Існуе таксама яшчэ адзін выбар. Трэба выбіраць: ці падаўленьне інфляцыі і, адлаведна, рост беспрацоўя, ці абяцаньне ледзь ня поўнае занятасьці і, адлаведна, правал палітыкі стрымліваньня інфляцыі. Зноў жа, трэцяга выйсьця тут няма. У праграме Лукашэнкі гэты момант не адлюстраваны. Значыць: ці сьвядомая, прабачце, хлусьня, ці непісьменнасьць. А бальшыні людзей проста трэба патлумачыць: умовы мяняюцца, неабходна шукаць сваё месца, хутчэй за ўсё — новае. Калі вы былі сьлесарам, то неабавязкова ім застанецеся.

### Падаткі

Нас пераконваюць, што без падаткаў дзяржаўны бюджэт напоўніць нельга. Між тым, галоўным уяўляецца пазбаўленьне датацыяў вытворцаў тавару. Як толькі гэта будзе дасягнута, можна вырашыць шэраг найважнейшых праблемаў.

Адмена датацыяў адразу ж пацягне за сабой структурную перабудову. Калі завод ня можа без субсыдыяў, то тавар, які ён выпрабляе нікому не патрэбны. Калі тавар не знаходзіць попыту, то навошта такі завод? Трэба мяняць арыентацыю.

Адмена датацыяў аўтаматычна вырашае праблему бюджэтнага дэфіцыту. Зусім недарэмна заходнія эканамічныя школы пачынаюць не з падаткаў, а менавіта з датацыяў, якія скажаюць карціну канкурэнтаздольнасьці прадпрыемстваў, спрыяюць манапалізацыі ў вытворчасьці. І, бадай, самае цікавае: згодна адносна новай тэорыі амэрыканскага эканаміста Буханана, існаваньне датацыяў нараджае монстраў — карупцыю, бюракратызм, лябізм.

Плюс да гэтага, ніхто асабліва не задае сабе пытаньне: хто будзе скрайнім? А ім аказваецца спажывец. Бо датацыі закладваюцца ў цану тавара — яна расьце. Выходзіць, што падтрымліваць датацыяй трэба таксама разьмеркаваньне і самога спажыўца. Кола зноў замыкаецца.

Гэты кардынальны аспэкт у праграме, па-сутнасьці, ня ўлічаны.

Што датычыць непасрэдна падаткаў. Строга кажучы, яны адлюстроўваюць тую долю ўласнасьці, якой валодае дзяржава, якую яна павінна, воленс-ноленс, забясьпечыць. Такім чынам, зьнізіць падаткі можна толькі ў тым выпадку, калі зьменшыцца доля дзяржаўнае ўласнасьці. Зараз падаткі магчыма зьнізіць толькі за кошт зьмены ўнутранай структуры падаткаабкладаньня. Ды і тое, нязначна. Напрыклад, шляхам зьмяншэньня падатку на дабаўленую вартасьць, які ва ўсім сьвеце адносіцца на выдаткі. Але ва ўсім сьвеце ПДВ скіраваны на абмежаваньне вытворчасьці тавараў, якіх і так зашмат. Пра нас такога ня скажаш, тым ня менш, ПДВ — 25%, а прынятая ў сьвеце норма — 15%.

### Прыватызацыя

Па-сутнасьці, — гэта вялізны іржавы інструмант, якім ніхто не сьпяшаецца забіць адразу шмат зайцоў. Але прыватызацыя, як гэта не парадаксальна, павінна ісьці поруч з нацыяналізацыяй. Як гэта робіцца, паказала «жалезная ледзі» Тэтчар.

У Англіі дзяржава скупляла прадпрыемствы, утрымліваць якія ўладальнікам не было сэнсу: адсутнасьць попыту на тавар, яго нізкая якасьць і г.д. Купляла па малой цане. Потым была санацыя прадпрыемства, перапрафіляваньне, прывядзеньне яго ў належны рынкавы стан. Затым — продаж, але па большай цане. Куплялі ахвотна, бо, апрача ўсяго іншага, дзяржава гарантавала замовы. Такім чынам кожны год дзяржава мела дадаткова 5 млрд. фунтаў стэрлінгаў, якія ішлі зноў жа на куплю заняпалых фірмаў, іхнае аздараўленьне, разнастайныя сацыяльныя праграмы.

Наша прыватызацыя робіцца, як здаецца, дзеля самой сябе. Прадалі, ці акцыянавалі, ці здалі ў арэнду — на гэтым усё. Такая прыватызацыя нічога ня дасьць.

### Зьнешняя эканоміка

Мы заўсёды залежалі і будзем залежаць ад Расеі, калі структура эканомікі застанецца нязьменнаю. Беларусь ужо амаль па сусьветных цэнах купляе энэрганосьбіты. Яны ж закладваюцца ў цану тавараў, якія мы экспартуем. Але і пры гэтым яны застаюцца неканкурэнтназдольнымі на рынку. Ніколі нашыя аўтамабілі, тэлевізары й лядоўні не дасягнуць сусьветнага ўзроўню, з гэтым трэба прымірыцца. І шукаць іншыя шляхі.

Напрыклад, перапрацоўваць адыходы лясной, хімічнай, нафтахімічнай і інш. вытворчасьцяў у тавар, якога на рынку няма, і які з гэтай прычыны купіць і Украіна, і Польшча, і Расея. І тады мы зможам дыктаваць свае ўмовы, а не нам.

Зараз жа, падтрымліваючы вытворчасьць нібыта якасных тэлевізараў і інш., дзяржава адначасова падтрымлівае неэфэктыўную мадэль эканомікі. Хоць шлях тут даўно вядомы: пераход на выпуск тавараў па тэхналёгіях заходніх транснацыянальных карпарацыяў. Што ня можаш зрабіць сам, аддай іншаму, які можа.

Арыентацыя на перапрацоўку сваёй сыравіны зьмяніла б, дарэчы, і структуру экспарту-імпарту. Беларусь ня мела б з новымі тэхналёгіямі праблемы энэрганосьбітаў. Іх спатрэбілася б значна менш, як цяпер. А гэта — сапраўдная эканамічная незалежнасьць. Праўда, такое магчыма толькі пасьля стварэньня практычна новага эканамічнага патэнцыялу. Праграма не дае падставаў лічыць, што краіна пойдзе менавіта ў гэтым напрамку.

### Прадпрымальнікі

Асноўны момант тут — адсутнасьць прававых гарантыяў. Калі ўрад сёньня выдае адзін загад, а праз тыдзень — з процілеглым сэнсам, то гэта нараджае той від прадпрымальніцтва, які мы цяпер маем. Уласна, праблема заключаецца ў строгім захаваньні ўжо прынятых ці маючых быць прынятымі законаў у сфэры прыватнага бізнэсу. Інакш, замест прадпрымальніка мы атрымліваем драпежніка, што цалкам абумоўлена характарам дзяржавы. Няхай гучыць ня вельмі карэктна, але дзяржава — самы страшны вораг прадпрымальніка. Менавіта з-за сваёй непрадказальнасьці. Згодна канцэпцыі таго ж Буханана, ценявая эканоміка ёсьць рэакцыя суб'ектаў гаспадараньня на манапалізм дзяржавы. Толькі і ўсяго.

Дарэчы, у праграму прэзыдэнта закладзены нейкія ільготы для прадпрымальніцтва, дапамога яму на дзяржаўным узроўні. Гэта не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі. Па-першае, урад наўрад ці зможа знайсьці дадатковыя сродкі. Па-другое, прадпрымальніцтва заснавана на, так бы мовіць, тэорыі самавыжываньня. І таму найлепшай дапамогай яму будзе адсутнасьць дапамогі, але прававыя гарантыі. Проста прыватніка ня трэба душыць. Астатняе — ягоны клопат.

### Прафанацыя? Не, каньюнктура

Калі аналізаваць асобныя часткі праграмы, то ствараецца ўражаньне прафэсійнай, прыгожай працы. Але, вяртаючыся да пачатку размовы, праграма зробленая пад тэзыс прэзыдэнта пра «сацыяльна справядлівы» выхад з крызысу. Можа таму і адсутнічае стратэгічная мэта, што яна і непатрэбная. Пастаўлены блізкія тактычныя мэты, а да чаго яны прывядуць — ня ведае і сам Лукашэнка. Да таго ж, нерэальна зьнізіць інфляцыю да 1-га — на 20%, а да 15-га — яшчэ на 10%. Гэта першасна невыканальна. Ня кожны палітык — эканаміст, але кожны эканаміст — палітык.

*P.S. Будзем дагаворваць да канца: можа і сапраўды Лукашэнка зьбіраецца вывесьці краіну з крызысу. Хутчэй за ўсё так. Але ня ў меншай ступені, як пра краіну, ён дбае пра сваю асобу. Дакладней, пра ейную папулярнасьць. Так прэзыдэнт губляе час. Тое, што можна было зрабіць адразу пасьля выбараў, на хвалі ўсенароднай любові, зараз ён ужо ня зробіць. Праз месяц ня зробіць і таго, што можна было цяпер.*

*Лукашэнка атрымаў тое, што хацеў: праграму, з'арыентаваную пераважна на сябе. Праўда, і адказваць прыйдзецца за ейнае выкананьне — яму.*

**Андрэй СЯРЖАН**



## Ангельская газэта пра выказваньні Лукашэнкі

**Уплывовы ангельскі каталіцкі тыднёвік *The Tablet* паведаміў пра выказваньне прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі наконт таго, што ён мае намер спыніць каталіцкі «экспансіянізм».**

Лукашэнка, піша *The Tablet*, лічыць каталіцкую царкву чужой, заходняй і, у прыватнасьці, польскай, імпартаванай у Беларусь. Бальшыня каталіцкіх сьвятароў на Беларусі, тлумачыць газэта, карыстаецца польскай мовай пры набажэнстве ды ў казаньнях. І на працягу апошніх трох гадоў вялікая колькасьць польскіх сьвятароў наведвалі Беларусь нібы турысты, а фактычна як місіянэры. Цяпер у Беларусі знаходзіцца каля 120 такіх «турыстаў», інфармуе газэта, якія, калі Лукашэнка выканае сваю пагрозу, могуць быць за кароткі час адасланыя назад у Польшчу.

Уніяцкая царква, піша далей *The Tablet*, можа таксама пацярпець. Стан гэтай царквы аніяк не палепшаў апошнім часам у выніку прызначэньня паляка Сяргея Гаека на становішча візытатара ад Усходняй Кангрэгацыі ў Рыме для беларусаў грэцкага абраду. Паводле *The Tablet*, гэта можа быць вытлумачана прарасейскай Праваслаўнай царквой як довад, што уніяты ня менш за рыма-каталікоў зьвязаны з польскай духоўнаю «пятаю калёнаю».

**М.Г.**

## Ня будзе рэформаў — не чакай дапамогі

**Прадстаўнікі адміністрацыі ЗША заявілі, што дапамога краінам былога СССР, якія не распачалі буйнамаштабныя рынкавыя пераўтварэньні, будзе значна скарочаная.**

Гэта зьвязана з тым, што Кангрэс Злучаных Штатаў амаль у тры разы зьменшыў аб'ём асыгнаваньняў на дапамогу замежным краінам: з 2,5 млрд. USD да 850 млн. USD. Цяпер усечаная фінансавая дапамога, прызначаная для былых савецкіх рэспублік, будзе пераважна разьмяркоўвацца паміж тымі зь іх, што рашуча сталі на шлях эканамічных рэформаў. Пытаньне ў тым, ці трапіць у гэты лік Беларусь.

**В.Ш.**

# Армія Краёва не дае спакою гісторыкам

**Раней беларускія гісторыкі мусілі дасьледаваць правядзеньне калектывізацыі і раскулачваньне. Армію Краёву можна было хіба абляць, не спрабуючы ўзважыць усе ейныя плюсы і мінусы. На гарадзенскай канфэрэнцыі 6—7 кастрычніка, прысьвечанай АК, фронт, нарэшце, быў прарваны.**

Беларускія навукоўцы прачыталі на канфэрэнцыі ажно 30 дакладаў, польскія — 8. Госьці імкнуліся да стрыманага дыялёгу, чаго, аднак, ня скажаш пра некаторых мясцовых палякаў, адзін зь якіх назваў канцэнтрацыйны лягер у Картуз-Бярозе санаторыем у параўнаньні з ГУЛАГам. У кулюарах некаторыя нават лічылі, што ён павінен папрасіць прабачэньня, паколькі наглядчыкі картуз-бярозаўскага лягеру стажаваліся ў Дахаў і былі спраўнымі катамі. Што да беларускіх дасьледчыкаў, дык частка зь іх выступала памяркоўна, робячы крокі насустрач палякам. Іншыя, як напрыклад, В.Ермаловіч, выступалі больш жорстка. Ён сьцьвердзіў, што АК для польскай гістарыяграфіі — «сьвяшчэнная карова», як некалі ў нас была КПСС. Палякі ня хочуць пагадзіцца, што акаўцы забівалі мірных жыхароў, і ў адказ нагадваюць пра дэпартацыю палякаў ды іншыя крыўды.

А вось старшыня таварыства «Беларусь—Польшча» Л.Лойка абмаляваў галоўную праблему ў выбары пазыцыі па гэтай праблеме для беларускага боку. Хоць акаўцы ваявалі на тэрыторыі Беларусі, ацэнка іхнай дзейнасьці была адзіная — савецкая, якой, дарэчы, мусіла збольшага прытрымлівацца і афіцыйная Варшава. Часы зьмяніліся, як і пазыцыя польскага боку. І цяпер спрачацца пра ацэнкі даводзіцца не з савецкім бокам, а зь беларускім. Між тым, як зазначыў сп.Лойка, у беларускіх гісторыкаў захаваліся рэцыдывы савецкага пункту гледжаньня на гэтую праблему. Таму для палякаў пакуль застаецца невыразным ўласнабеларускае стаўленьне да АК. Ён таксама зазначыў, што і акаўцы, і савецкія партызаны выконвалі волю ўласных урадаў і былі ў палоне свайго палітычнага лёсу.

Дарэчы, на гэтую ж акалічнасьць зьвярнулі ўвагу і варшаўскія гісторыкі. Прафэсар Бальцэрак з польскай Акадэміі навук папракнуў беларускіх прамоўцаў за ўжываньне выразаў накшталт «банда акаўцаў», «злодзеі з АК» або «было агульнавядома, што акаўцы супрацоўнічалі зь немцамі». Гэта — мова прапаганды, а не навуковая. Аказваецца, называць бандамі польскі рух супраціву было дамоўлена на дзьвюх сакрэтных нарадах паміж гестапа і НКВД у 1939 і 1940 гг. Ужо тады нямецкая акупацыйная прэса выкарыстоўвала толькі гэты тэрмін, а беларускія навукоўцы ім карыстаюцца дагэтуль.

Іншы польскі гісторык казаў, што ў СССР існаваў тады дыктатарскі рэжым, таму трэба крытычна выкарыстоўваць тагачасныя крыніцы. Нельга забывацца, што акаўцы дзейнічалі паводле законаў польскай дзяржавы і не маглі ведаць, вернецца сюды польская ўлада ці не. Іншыя лічылі, што неабходна кіравацца савецкімі законамі. Аднак сёньня тут сувэрэнная беларуская краіна. Карацей, палітычныя рэаліі зьмяніліся і неабходна карэктаваць шмат якія заідэалягізаваныя і запалітызаваныя раней ацэнкі. Датычна саміх беларусаў ён лічыць, што аднолькава з палякамі яны сталі ахвярамі і немцаў і саветаў. Пра апошняе сьведчаць Курапаты.

Ад польскага пасольства ў Менску слова сказаў ягоны першы сакратар Кшыслаў Длужэўскі, які з прыкрасьцю адзначыў зьяўленьне ў беларускіх афіцыйных газэтах публікацый пра АК, вытрыманых у рэзканэгатыўным тоне. Ён папрасіў навукоўцаў карыстацца толькі лічбамі і фактамі, пацьверджанымі архіўна. Сп.Длужэўскі адзначыў таксама, што палякі зацікаўленыя ў разьвіцьці добрых дачыненьняў з братнім народам і зь беларускаю дзяржавай. Ён прапанаваў дапамогу для працягу дыскусіі пра Армію Краёву. Дарэчы, наступная (пятая) сустрэча беларускіх і польскіх гісторыкаў адбудзецца ў Варшаве.

Дырэктар Беларускага навукова-дасьледчага цэнтру дакумантазнаўства, археаграфіі й архіўнай справы сп.Міхнюк, які вёў канфэрэнцыю, падсумаваў дыскусію. Навукоўцы выслухалі адзін аднаго і ў нейкай ступені зблізілі пазыцыі, хоць шмат у чым яны застаюцца процілеглымі. Ён заклікаў абодва бакі крытычна ставіцца да крыніцаў, адмовіцца ад палітызацыі гісторыі. Сп.Міхнюк назваў правакацыйным артыкул пісьменьніка Івана Новікава пра Армію Краёву, надрукаваны «Советской Белоруссией» 30 верасьня, у дзень, калі плянавалася адкрыцьцё гэтай канфэрэнцыі. Некаторыя з гісторыкаў наракалі, што дагэтуль ня могуць трапіць у архівы КГБ і што існыя туды наагул няёмка. Сп.Міхнюк параіў ім, паколькі прыняты закон аб архівах, не баяцца зьвяртацца ў КГБ, бо, за ягонымі словамі, хто мае іншыя мэты, ходзіць туды праз іншыя дзьверы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



# Спрэчка пра АК: погляд з Варшавы

**З нагоды гарадзенскай канфэрэнцыі, прысьвечанай Арміі Краёвай, адна з найбуйнешых польскіх газэтаў *Życie Warszawy* 6 кастрычніка надрукавала вялікі артыкул Тамаша Стжэмбоша пад загалоўкам «Спрэчка ня толькі пра АК: Хто быў законным гаспадаром Наваградчыны, Віленшчыны й Палесься ў 1939-1945 гг. — Польшча ці СССР?» Артыкул зьмяшчае аналіз публікацыяў у беларускай прэсе, а таксама фармулюе польскую пазыцыю.**

Аўтар адзначае, што публікацыі апошняга часу ў беларускай прэсе напісаны пераважна з пазыцыяў савецкай імпэрыі, а не з разуменьня сувэрэннасьці Беларускай рэспублікі. Аўтары ў беларускіх газэтах занятыя канфліктам паміж Арміяй Краёвай ды савецкай партызаншчынаю, які ў сваёй сутнасьці ня быў канфліктам польска-беларускім. Не заўважаецца, што людзі, якія ліквідоўваліся польскім падпольлем у 1939-1940 гг., а потым баявымі аддзеламі АК, былі забітыя не як беларусы, расейцы, украінцы, габрэі альбо палякі, а як функцыянэры савецкага апарату тэрору альбо іхныя агенты.

Беларуская публіцыстыка, зазначае Т.Стжэмбож, адмаўляе жаўнерам АК у праве змагацца за Польшчу ў яе перадваенных межах. Цалкам адмаўляецца факт юрыдычна-міжнародных наступстваў Рыскага трактату 1921 г., а таксама факт незаконнасьці анэксіі польскіх тэрыторыяў як гітлераўскаю Нямеччынай, так і сталінскаю Расеяй. Адмаўляецца той факт, што ў выніку ocupatio bellica (ваеннай акупацыі), паводле прынятых міжнародных правілаў, забараняецца зьмяненьне межаў якой-небудзь дзяржавы, а таксама ніхто ня можа пазбавіць яе жыхароў даваеннага грамадзянства. Не зварачаецца ўвага гэтай публіцыстыкі на тую акалічнасьць, што ў гісторыі Эўропы няма ніводнага прыкладу, каб змагары за страчаную незалежнасьць ваявалі б не за аднаўленьне ўсяго забранага краю, а толькі за ягоную палову.

Аўтар зьвяртае ўвагу таксама на тое, што беларускія выданьні адмаўляюцца друкаваць палемічныя матар'ялы, якія прадстаўлялі б іншы погляд. Пішучы пра манэўры акаўскіх камандзераў паміж немцамі ды савецкімі партызанамі, як правіла, забываюць пра загад 1-га сакратара КПБ Панамарэнкі, які быў выдадзены ў пачатку лета 1943 г., дзе патрабавалася фізычная ліквідацыя альбо ўключэньне ва ўласныя аддзелы партызанскіх адзінкаў АК. Ахвярамі гэтага загаду сталі, між іншым, аддзел «Кміціца» каля возера Нарач у верасьні 1943 г. (першы буйны аддзел АК на Віленшчыне) і стаўпецкі батальён у Налібоцкай пушчы ў лістападзе 1943 г. Сучасныя беларускія аўтары забываюць пра вынішчэньні савецкімі партызанамі сотняў сем'яў (польскіх і беларускіх), пра спаленьне цэлых вёскаў, гвалты і рабаваньні, што зьяўляюцца колькасна непараўнальнымі з тымі злачынствамі, у якіх абвінавачваецца АК. Не без падставаў шматлікія беларусы добраахвотна ўступалі ў аддзелы АК, не без падставаў уласна яны фармавалі спантанныя альбо ўтвораныя праз немцаў аддзелы вясковай самаабароны, скіраваныя супраць савецкіх партызанаў, а ня супраць АК.

Пры гэтым забойствы, што выконваліся з даручэньня Масквы, альбо з уласнай ініцыятывы, не былі інцыдэнтамі. Гэта была рэалізацыя сьвядома прынятай савецкай імпэрыяй канцэпцыі «ачышчэньня тэрыторыі» ад элемэнтаў ня толькі варожых, але таксама няпэўных, «классово чуждых». Гэтай самай мэце служылі як ліквідацыі 1943-1944 гг., так і масавыя арышты 1939-1941 гг., калі ў лягеры высылаліся людзі, якіх вызначалі як СОЭ (Социально Опасный Элемент). Дадзеную катэгорыю на 90% складалі польскія і беларускія сяляне, местачкоўцы (у тым ліку й габрэі), рабочыя й саматужнікі.

Фармулюючы абвінавачваньні супраць АК, беларускія гісторыкі і публіцысты аўтаматычна ідэнтыфікуюць сябе зь імпэрыялістычнай савецкай палітыкай, а не адстойваюць пазыцыю Беларускай рэспублікі, падкрэсьлівае польскі аўтар.

**Паводле *Życie Warszawy* падрыхтаваў Ян ГРЭЧЫЦ**

# Ці спынім рэсаветызацыю?

**2 кастрычніка віленскі Інстытут Сацыяльных Дасьледаваньняў пры дапамозе Інстытуту Дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе (IDEE) ладзіў міжнародную канфэрэнцыю «Рэсаветызацыя як новая форма расейскага імпэрыялізму».**

У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Баўгарыі, Вугоршчыны, Грузіі, Літувы, Польшчы, Румыніі, Славакіі, Украіны, Харватыі, Чачні, Чэхіі, а таксама кіраўнікі IDEE і часопіса Uncaptive Minds з Вашынгтону Ірэна Лясота і Эрык Чэноўэт. Ад нашай краіны прамаўляў Вінцук Вячорка (Беларускі Народны Фронт).

«Рэсаветызацыя» ў вуснах удзельнікаў канфэрэнцыі азначала не аднаўленьне «савецкай улады», але вяртаньне камуністычных і маскоўскіх уплываў. Дарэчы, выступоўцы ад Украіны, Крыму і Беларусі ў адзін голас сьцьвердзілі, што ў іхных краінах яшчэ не адбылася дэсаветызацыя, каб казаць пра рэсаветызацыю. Наагул жа навукоўцы й палітычныя дзеячы былі згодныя ў сваёй занепакоенасьці намаганьнямі Масквы здабыць ад Захаду carte blanche на права «ўладкоўваць» посткамуністычную прастору Эўропы й Азіі.

Польскі публіцыст Якуб Карпінскі адзначыў падабенства палітычна-эканамічных працэсаў у краінах рэгіёну. Паўсюдна вяртаюцца да ўлады перафарбаваныя камуністы, якія адстойваюць інтарэсы скапіталізаванай намэнклятуры, зацікаўленай не ў сапраўды свабодным рынку, а ў манаполіі. Намэнклятурная ўлада змыкаецца з мафіяй.

Канфэрэнцыя прыняла звароты да прэзыдэнтаў Расеі і ЗША, а таксама да ААН наконт падзеяў у Чачні, дзе, як мяркуецца, адбываецца ўмяшаньне імпэрскіх сілаў ва ўнутраныя справы чачэнскага народу.

**В.Б.**

# Выйшаў сьвежы нумар «Нашай Нівы»

У 1939 годзе на мітынгу ў Вільні за далучэньне гэтага горада і раёну да БССР сабралася 75 тысяч жыхароў... А сёньня далёка ня кожны насельнік Беларусі ведае, што Вільня — гэта сучасны Вільнюс. Як здарылася так, што горад з багатымі традыцыямі сусьветнай культуры, калыска культуры беларускай, стаў сталіцай маленькай Літоўскай Рэспублікі? Пра гэта на старонках «Нашай Нівы» распавядае літоўскі гісторык.

У сьвежым нумары газэты — 32 старонкі, на якіх зьмясьціліся артыкулы, вершы, перакладныя апавяданьні, мапа Беларусі і новы раман Адама Глёбуса, які рэдакцыя «НН» не ракамэндуе чытаць дзецям.

**С.П.**

